# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ —
БЕЦЕ МЯЧАМІ!
НЕ ДАВАЙЦЕ
ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч
(1891-1991)

№ 385 Сьнежань 1991
Год выд. XL

BIELARUS / BELARUSAN Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.50





**Вярхоўнай Радзе Украіны**
**Празь Місію Украіны пры ААН**
**136 Іст 67 Ст.**
**Нью-Ёрк, Н.-Ё. 10021**

**Паважаныя Дэпутаты!**

Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня шчыра вітае Украінскі Народ на новым незалежным этапе будаваньня вольнае і дэмакратычнае ўкраінскае дзяржаўнасьці і жадае, каб як мага хутчэй былі дасягнутыя і замацаваныя на Украіне свабода і дабрабыт.

Беларусы Амэрыкі ўважліва сочаць ход падзеяў у суседняй зь Беларусяй Украіне, ведаючы, што лёс Беларусі цесна спалучаны зь лёсам Украіны. Дзеля гэтага кожную перамогу ўкраінскае дэмакратыі беларусы вітаюць і ўспрымаюць як крок да перамогі дэмакратыі і ў Беларусі. Нацыянальна-вызвольныя рухі ўкраінскага і беларускага народаў пазначаныя глыбокай традыцыяй супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі. Будзем-жа працаваць над тым, каб гэтая традыцыя працягвалася і паглыблялася на новым этапе нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

Шчасьці Вам Божа.
Слава Украіне! Жыве Беларусь!

2 сьнежня 1991

Вера Запруднік, сакратар — Антон Шукелайць, старшыня

## ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗЬМЕНЫ Й АДРАДЖЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ

Як адзначаюць саветалёгі, відавочна, тэрмін ужо застарэлы, найвыдатнейшыя палітычныя падзеі ў сьнежні месяцы былі: вынікі плебесцыту на Украіне — вялізарная большасьць жыхарства выказалася за поўную незалежнасьць краіны — ды ўтварэньне Супольнасьці Дзяржаваў, спачатку толькі славянскіх — Беларусі, Расеі і Украіны, а потым далучэньне да гэтае Супольнасьці іншых былых рэспублікаў СССР. Гэтыя падзеі знаходзяць падтрымку ў Вашынгтоне ды ў Заходня-Эўрапэйскіх дзяржавах. Аднак, трэба падкрэсьліць, падтрымка новастворанай Супольнасьці вельмі асьцярожная з прычын заклапочанасьці Вашынгтону кантролям пульту нуклеарнае зброі, а не з палітычных меркаваньняў.

У выніку падзеяў, Беларусь апынулася ў цэнтры палітычнага жыцьця — актыўны партнёр палітычнае гульні, і кансэквэнтна, ў цэнтры ўвагі сьвету. Нельга нават прыпушчаць, што ў гэтыя дні й месяцы ёсьць пісьменныя грамадзяне, хто ня чуў бы аб Беларусі. Толькі ў друку Амэрыкі рэспубліка Беларусь фігуравала ў сьнежні ў некалькіх сотнях газэтаў ды на ўсіх каналах агульна-амэрыканскага й лякальнага тэлебачаньня. Няма сумлеву — Беларусь выйшла на шырокую палітычную арэну. Для беларускае нацыі — гэта бясспрэчна важны крок наперад.

Але, беларусы дыяспары, якія выехалі на эміграцыю у большасьці дзеля ідэі перахаваньня Беларускае Дзяржаўнасьці, беларускае гісторыі, беларускае мовы й культуры, могуць ставіць пытаньне — ці дадзеная палітычная мадэль будзе спрыяць адраджэньню беларускасьці, мовы й культуры ды стварэньню нацыянальнае беларускае дзяржавы? Праўдападобна, што новаствораная Супольнасьць Дзяржаваў — лягічны крок, на дадзеным этапе, да эканамічнае стабілізацыі рэгіёну, але наўрад ці гэты крок азначае найвыгаднейшую мадэль для Беларусі.

Новаствораная дзяржаўная мадэль насьцярожвае з пункту гледжаньня нацыянальнага адраджэньня. Тым балей, калі ў гэтай мадэлі сталіца Беларусі — Менск — фігуруе як будучая сталіца новае дзяржавы. Праўдападобна, у адміністрацыі Супольнасьці будзе расейская мова, расейскае дасьветчаньне адміністраваньня, расейскія кадры будуць пераважаць колькасна і ўсё гэта будзе адбывацца ў Менску, у горадзе, які дасюль быў амаль поўнасьцю выпустошаны беларускасьці заменены расейшчынай. Насьцярожвае нас гэткая магчымая сытуацыя і з тае прычыны, што Менск задаваў тон ўсёй Беларусі, а дасюль, танальнасьць Менску была расейская. Дык для нацыянальнага адраджэньня, для будучае нацыянальнае беларускае дзяржавы, выглядае, каньюктура ня гэткая ўжо прыбавлівая. Праўда, на сытуацыю можна было-б глядзець і больш аптымістычна, каб у Рэспубліцы Беларусь быў бы **Беларускі** Вярхоўны Савет, каб Вярхоўны Савет рэспублікі карыстаўся беларускай мовай, падтрымваў прынятае ім заканадаўства ды каб адміністрацыя Беларусі размаўляла-б па-беларуску. Пры такой сытуацыі, дадзенай мадэлі дзяржаўнасьці насьцярожвацца не прыходзілася-б.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што адраджэньне нацыянальнае Беларусі ў новых умовах — справа самых беларусаў.

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

### ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

Дарагія Браты й Сёстры!

Адзін выдатны тэалёг параўноўвае прыход Госпада Ісуса Хрыста на зямлю да прыходу лекара-хірурга да хворага. Бог глядзіць на сьвет так, як лекар пры ложку хворага, што ляжыць у шпіталі ў вялікай гарачцы, які магчыма й не сьвядомы прысутнасьці доктара. Лекар уважна прыслухоўваецца да дыханьня хворага й правярае пульс. Тады у патрэбную хвіліну кліча мэдсястру й кажа ёй: «Не марудзь, а хутка прырыхтуй яго да апэрацыі».

Падобна як лекар, Бог чакаў пры чалавецтве, што церпела болі сталецьцямі, і прыслухоўваўся ўважна да чалавечага духовага дыханьня й правераў пульс чалавечай душы, і «Як прыйшла паўніня часу» (Гал. 4:4), Ён пастанавіў, што настаў час для апэрацыі. Гэта была вельмі патрэбная апэрацыя, і Госпад пастанавіў зыйсьці зь неба і Сам выканаў яе.

Мы самі сьветкамі прыходу па волі Божай Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста. Сёлета адбылося здарэньне ў нашым краю, якога ніхто не спадзяваўся. Бог папусьціў бязбожную ўладу да чыну, у якім яна сама сябе зьнішчыла. Бязбожны камунізм выканчаны. А на руінах яго паўсталі незалежныя рэспублікі, у тым ліку і нашая сьвятая Літва-Беларусь. Адбылося тое, што прадбачыў Вешчы Сяргей Палуян яшчэ перад Першай сусьветнай вайной, кажучы: «Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы і веры, я крычу на ўсю моц тваім нівам, лясам і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сынам: «Зь вялікім сьвятам віншую! Зь вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!».

Пра прыход Госпада нашага Ісуса Хрыста, сьв. апостал Пётра кажа рымскаму сотніку: «Пра Яго ўсе пракокі сьветчаць» (Дзеі 10:43). Гэта ня толькі дзень нашае радасьці, веры й надзеі, дарагія мае, але й роздуму над вартасьцяй самога нараджэньня Караля каралёў. Хто прынёс новую мараль жыцьця чалавеку і заклікаў яго да высокага духовага ўзроўню. Чалавек, незалежна ад таго, у якіх абставінах ён жыве — на свабодзе ён ці ў зьняволеньні — заўсёды прагне лепшага заўтра, моліцца за лепшую будучыню, за больш высакародны сьвет, каб ня было боязі перад зьдзекамі й пакутамі, каб заўсёды панавалі любоў, братэрства паміж людзьмі ў духу малітвы, якую ў дзень Нараджэньня Хрыстовага сьпяваюць вернікі ў сваіх сьвятынях: «Слава Богу на вышынях, а на зямлі мір паміж людзьмі добрае волі» (Лк. 2:14).

Нараджэньне Госпадава ня было спантанічным, зьвязаным зь пераменамі ў сьвеце, але яно прыйшло ў патрэбным часе, калі на зямлі чалавецтва найбольш патрабавала ратунку. Тут нічога прыпадковга ня здарылася, бо Хрыстос нарадзіўся, «Як прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго» (Гал. 4:4).

Хрыстос прыйшоў вызваліць людзей зь няволі грэху й весьці іх да вышэйшага духоўнага ўзроўню. Бязьлітасныя дыктатары намагаліся й намагаюцца зьнішчыць годнасьць чалавека як стварэньня Божага, выкараніць у ім веру ў дабрыню вечнага Бога і ўгрунтаваныя на гэтай веры прынцыпы справядлівасьці. Але наш хрысьціянскі абавязак, дарагія мае, — стаяць у абароне правоў чалавека, ягонае веры й маральных прынцыпаў, ягонае духовасьці. «Ня можаце служыць Богу й мамоне», кажа Госпад. Бог твой сярод цябе дуж і выратуе, будзе цешыцца зь цябе ў радасьці, спыніцца на любасьці да цябе, сьпевам будзе цешыцца зь цябе.

Дарагія мае, радуйцеся й весяліцеся, бо Госпад Ісус Хрыстос зыйшоў на зямлю, каб ратаваць нас, прынесьці мір усім нам, людзям. І мы разам з анёламі сьпявайма: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір у людзей добрае волі».

Няхай-жа дзень Нараджэньня Хрыстовага будзе радасным сьвятам усім Вам і Божае дабраслаўленьне з усімі Вамі.

Хрыстос нарадзіўся — Яго слаўце!

Каляды 1991 г.
Таронта, Канада.

Мітрапаліт Мікалай
Першы Ярарх БАПЦ

### СЬВЕЖЫЯ НАВІНЫ ЗЬ МЕНСКУ

Плошча Леніна перайменаваная ў Плошчу Незалежнасьці, а праспэкт Леніна ў праспэкт Скарыны.

В. Кіпель

# ЭМІГРАНТЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ Й ПРАФСАЮЗЫ.
## (да гісторыі беларусаў у Амэрыцы)

На гэтую тэму, ня шмат літаратуры, ні ў беларускай мове, ні ў якой іншай. Тымчасам, тэма цікавая й бясспрэчна ў будучыні знойдуцца дасьледнікі і гэтае тэмы. Праўда некаторыя весткі аб удзеле нашых землякоў у прафэсыйным работніцкім руху Амэрыкі сустракаюцца ўжо і на старонках газэты «Наша Ніва». Неаднаразова ў «Нашай Ніве» даваліся весткі, дэталі, у якіх мясцовасьцях беларускія іміграны бралі ўдзел у забастаўках, былі членамі прафсаюзаў. Гэтаксама аб адносінах беларускіх эмігрантаў да прафсаюзаў Амэрыкі пісаў імігрант Сьцяпан Бубешка ў артыкуле «Жыцьцё беларусаў у Амэрыцы», які быў зьмешчаны ў школьнай чытанцы «Родны Край» выдадзенай у Вільні ў 1921 годзе. Бубешка пісаў: «Працуючь беларусы ў Амэрыцы ўва усіх галінах прамысловасьці, праходзяць практычную школу абсалютна ўва ўсіх майстроўнях. Маюць беларусы нават свае каапэратывы, як краўцоў у Бронзвіле (раней, ваколіца гораду Нью Ёрку — цяпер, бадай, цэнтр Брукліну), сталяроў, цесьляроў, домабудаўнікоў і іншыя. Нажаль нашыя землякі мала цікавіліся работніцкім рухам, ня ўсе станавіліся членамі прафэсыйных саюзаў. А праца прафсаюзных работнікаў аплачваецца значна ляпей як праца неарганізаваных работнікаў, і таму шмат хто з нашых землякоў зарабляе меней». Аднак далей у сваім артыкуле Сьцяпан Бубешка пісаў, што паступова беларусы шырэй і шырэй уваходзілі ў прафэсыйныя саюзы.

Патрэбна, аднак, унесьці колькі удакладненьняў у артыкул Сьцяпана Бубешкі. Нават і тым часе — гады 1910-20 — былі беларускія эмігранты, якія ня толькі ўваходзілі ў прафсаюзы, але былі і арганізатарамі колькіх лякаляў. Прыкладам, адным зь першых арганізатараў работніцкага прафсаюзу краўцоў Нью Ёрку быў імігрант із Случчыны, якога звалі Валодзя Татарчык. Татарчык арганізаваў некалькі гурткоў прафсаюзаў, пераважна вярбуючы сваіх землякоў-беларусаў, асабліва ў прафсаюз краўцоў, якія асабліва ў прафсаюз краўцоў, якія спэцыялізаваліся ў шыцьці дзіцячае вопраткі Валодзя Татарчык займаў у работніцкім руху кіруючае становішча. Нажаль, у выніку канфлікту на аснове прафсаюзнай дзейнасьці ён трагічна загінуў у 1913 годзе. Пахорыны Татарчыка ў Нью Ёрку выліліся ў вялізарную работніцкую дэманстрацыю, у часе якое над труной Татарчыка адзін з прамоўцаў быў Сьцяпан Бубешка. Быў арганізаваны ў значнай меры беларускімі імігрантамі быў прафсаюз разьбіральнікаў дамоў. Адным з выдатнейшых кіраўнікоў гэтага прафсаюзу ў дваццатых гадох быў беларус зь Віленшчыны — Іван Серафімовіч. Дарэчы, аб беларусах-разьбіральніках дамоў, як «артыстах разьбіраньня» быў выдрукаваны цікавы артыкул у красавіку 1936 у адным з большых амэрыканскіх часапісаў «Інкуайер». У прафсаюзным саюзе маляроў, адзін з арганізатараў быў беларус імігрант з Горадзеншчыны — Міхал Дзебаневіч.

Былі дзейныя беларусы і ў прафсаюзе сталяроў.

Неабходна таксама падкрэсьліць, што ў прафсаюзным руху Амэрыкі было шмат дзеячоў, якія паходзілі зь Беларусі, але былі яўрэйскага паходжаньня. Тым ня менш, яны зазначалі, што яны паходзяць зь Беларусамі, а адзін зь іх, вельмі ўплывовы дзяяч, Ісак Гурвіч перадаў напачатку дваццатых гадоў сваю багатую бібліятэку Беларускаму Дзяржаўнаму Унівэрсытэту ў Менску. Зь мястэчка Койданава паходзіў знаны прафсаюзны дзяяч ЗША — Язэп Шлёсбэрг, які таксама ўсюды казаў, што ягоныя радзіма — Беларусь. З Бабруйску паходзіў прафсаюзны дзяяч — Самуіл Ваўчок, адна з выдатнейшых дзеячак прафсаюзу работнікаў прамысловасьці дзіцячае вопраткі была Фаня Коган зь Менску ды гэты сьпіс можна прадаўжаць і прадаўжаць.

Цімала было актыўных прафсаюзных працаўнікоў-беларусаў і з хвалі эміграцыі па другой сусьветнай вайне. З нашага дасьледваньня гэтае дзялянкі ў гісторыі беларусаў Амэрыкі яўна відаць, што беларуская спадчына ёсьць і ў прафсаюзным руху Злучаных Штатаў Амэрыкі.

# НАВІНЫ З АДЭЛЯЙДЫ, ПАЎДЗЁННАЯ АЎСТРАЛІЯ



*Беларуская група на дэманстрацыі*

У суботу 31-га жніўня сёлета Летувісы, Латышы й Эстонцы сабраліся каля парлямэнцкага дому ў Адэляйдзе, каб падзякаваць аўстралійскаму ўраду за прызнаньне самастойнасьці Балтыйскіх краінаў. Беларусы і Украінцы са сваімі сьцягамі й плякатамі падтрымалі Балтаў.

7-га верасьня каля таго-ж Дому Ўраду Паўдзённай Аўстраліі Украінцы зрабілі дэманстрацыю, у якой гэтаксама прынялі ўдзел Беларусы са сьцягамі й адпаведнымі надпісамі. Украінскія прадстаўнікі выступалі з прамовамі й просьбаю, каб Аўстралійскі урад прызнаў незалежнасьць Украіны, калі на гэта прыйдзе патрэба. Гэтаксама успаміналі пра незалежнасьць Беларусі. Беларускі прадстаўнік, старшыня Беларускага Аб'еднаньня сп. Колес сказаў гарачую прамову за Беларусь і Украіну і закончыў словамі: «Няхай жыве незалежная Беларусь і Украіна» дэманстранты з энтузыязмам падтрымалі ягоныя словы.

**У. Акавіты**

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ.

У бліжэйшых плянах камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў — актыўны ўдзел у Багдановічавым юбілеі (сьнежань 1991), навуковая канфэрэнцыя «Беларусы ў Пецярбургу-Петраградзе-Ленінградзе-Пецярбургу» (пачатак 1992), міжнародная канфэрэнцыя «Суадносіны паміж рэгіянальным і нацыянальным у культуры Беларусі і суседніх народаў» (Пінск, 1993), заняткі Міжнароднай школы беларусістаў (лета 1992).

Ніжэй падаецца сьпіс рэдкіх выданьняў, якія Міжнародны камітэт беларусістаў мяркуе ўзнавіць рэпрынтным спосабам.

Вашыя папярэднія заказы дапамогуць сваечасова набыць адпаведную колькасьць экзэмпляраў.

1. АНТОНАЎ І. Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны ў 1919-1921 гг. Б.г. і м.
2. БОХАН Д. Минские предания и легенды. Минск, 1901.
3. ВЕРАС З. Батанічны слоўнік. Вільня, 1924.
4. ДЗІЦЯЧАЯ чытанка. Менск, 1917-1918.
5. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ В. Гапон. Мінск, 1855 (лацінкай).
6. ДЫЯМЕНТЫ Беларускага прыгожага пісьменства. Кіеў, 1919.
7. ЗАПІСЫ Беларускага навуковага таварыства. Сш. І. Вільня, 1938.
8. ЗАСЕЦКІ М. Міністэрства беларускіх справ за 10 месяцаў існавання. Коўна, 1919.
9. КРАТКЕ зэбране наукі хщэсціяньскей. Вільно, 1835 (лацінкай).
10. КСЁНДЗ Адам Станкевіч. Вільня, 1940.
11. ЛІТАРАТУРНЫ зборнік «Вольнае Беларусі». Сш. І. Менск, 1917.
12. ЛУЧЫНА Я. Вязанка. Пецярбург, 1903.
13. МІЦКЕВІЧ А. Пан Тадэвуш. Пер. В. Дуніна-Марцінкевіча. Вільня, 1859.
14. НАВІНА А. Падарозе да новага жыцьця. Вільня, 1912.
15. НАВІНА А. Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. Вільня, 1921.
16. НАВІНА А. Янка Купала як прарок адраджэньня. Вільня, 1932.
17. ОЙ, ПРЫШЛА КАЛЯДА: Зборнік беларускіх калядных песьняў. Менск, 1942.
18. ПАМЯЦІ Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі сьмерці яго. Вільня, 1920.
19. ПЕРШАЕ чытаньне: для дзетак беларусаў. Пецярбург, 1906.
20. ПРАЦЫ акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14-21 лістапада 1926). Менск, 1927.
21. СТАНКЕВІЧ Я. Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. Вільня, 1933.
22. СТАНКЕВІЧ Я. Гісторыя беларускага языка. Вільня, 1939.
23. СТАНКЕВІЧ Я. Зьмена граматыкі беларускага языка ў БССР. Вільня, 1936.
24. СТАНКЕВІЧ Я. Кніжка вучыць чытаць і пісаць лацінкаю Менск, 1943.
25. СТАНКЕВІЧ Я. Крыўя-Беларусь у мінуласьці. Менск, 1942.
26. ТАРАС на Парнасе. Віцебск, 1896.
27. ТАРАШКЕВІЧ Б. Граматыка. Вільня, 1918.
28. ФАРБОТКА Я. Беларусь у песьнях: Літаратурна-гістарычны нарыс. Менск, 1920.
29. ЦЁТКА. Скрыпка беларуская. Жоўква, 1906.
30. ЧАЧОТ Я. Пёснкі весьнячэ... Вільно, 1846 (лацінкай).
31. ШАНТЫР Ф. Патрэбнасьць нацыянальнага уклада для беларусаў і самаадзначэнне народа. Слуцк, 1918.

Тыраж выданняў будзе фармавацца ў залежнасьці ад Вашых заказаў. Заказы просім пасылаць на імя Міжнароднага камітэту беларусістаў (Беларусь, 220072. Менск-72. Ленінскі прасп. 66, пакой 420).

Паведаміце, калі ласка, таксама, якія яшчэ рэдкія кнігі варта было-б, паводле Вашага меркаваньня, перавыдаць рэпрынтным спосабам. Дадатковая канкрэтная інфармацыя будзе разаслана пасля атрымання заказаў.

**Міжнародны камітэт беларусістаў**

# «ВЫБРАНЕЦКІЯ ШЫХТЫ»

Напачатку сёлетняга году ў Менску была створаная новая арганізацыя моладзі «Выбранецкія Шыхты». У яе статуце запісана: «Зьяўляецца дабраахвотным спартовым гістарычна-патрыятычным аб'яднаньнем асоб, якія ставяць сваёй мэтаю выхаваньне нацыянальнае сьведамасьці беларусаў, грамадзянскае адказнасьці за захаваньне культурнай і гістарычнай спадчыны беларускага народу, спрыяць захаваньню нацыянальнага, культурнага і прыроднага патэнцыялу Беларусі».

Ніжэй падамо хроніку «Выбранецкай» дзейнасьці за першы год.

**Красавік.** Пасадка ста пяцідзесяці дрэваў у Менску. Сумесна з Беларускім Культурным Таварыствам «Каралевец» (гістарычная беларуская назва Калінграду) арганізацыя правяла экспэдыцыю па раёнах Усходняй Прусіі (Калінінградская вобласьць), дзе кампактна жывуць перасяленцы зь Беларусі (Праўдзінск, Дружба, Нова-бабруйск, Мазыр Новы). Мэта экспэдыцыі — вывучэньне стану беларускай мовы, дасьлед гістарычнай памяці нашых суродзічаў.

**Травень-Чэрвень.** Наведаньне Смаленшчыны. Мэта экспэдыцыі — збор матар'ялаў пра Веліжскае паўстаньне 1919 году, партызанскі рух ў дваццатых гадох, дасьледваньне фальклёру і моўнага дыялектычнага матар'ялу, пошук вучняў былых беларускіх школаў на Смаленшчыне.

**Ліпень.** Сумесна з Беларускім навукова-гуманітарным таварыствам арганізаваная вандроўка па паўднёвай Віцебшчыне да былых сьвятых месцах нашых продкаў — вытокаў рэчак Вільлі й Бярэзіны. Адшуканыя культавыя камяні, гарадзішчы й капліцы, запісаныя легэнды, паданьні, загадкі, песьні.

«Выбранцы» бралі ўдзел у перазахаваньні праху Івана Луцкевіча ў Вільні, сьвяткаваньні перамогі пад Дуброўнаю (Грунвальдам), у жальбінах на ахвярах бальшавіцкага тэрору ў 1930-1941 гадох у Ігумене (сучасны Чэрвень).

**У канцы верасьня** ў «Беларускай Хатцы» арганізацыя зладзіла хрэсьбіны Незалежнасьці Беларусі. На вячорках, акрамя тэатральных выступаў ды паважных паведамленьняў, былі й гульні, танцы й песьні. Вячоркі ў «Беларускай Хатцы» плянуюцца быць рэгулярнымі.

Цікавая й амбітная праграма. Памагай вам, Божа!

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ



*Помнік Гэроям на беларускіх могілках у Іст Брунсвік. Фота А. Дубягі.*

Беларуска-амэрыканскія арганізацыі прадаўжаюць традыцыю адзначэньня ўгодкаў Слуцкага Змаганьня, якая ў Злучаных Штатах была запачаткаваная ў дваццатых гадох. Тады ў Амэрыку прыехалі некалькі случчакоў, якія пасяліліся ў Дэтройце, ды заініцыявалі адзначэньні гэтае важнае ў гісторыі Беларусі, падзеі.

Сёлетняе адзначэньне Слуцкага паўстаньня ў штаце Нью Джэрзі ў горадзе Гайлянд Парку было арганізаванае Задзіночаньнем Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў 1-га і 2-га сьнежня. У суботу 1-га сьнежня урачыстасьць адбылася на беларускім могільніку ў Іст Брансьвіку, дзе быў зложаны вянок ля абэліску ў памяць загінуўшым за Беларусь ды ўсе магілкі былі ўдэкараваныя беларускімі нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сьцяжкамі.

2-га сьнежня, у нядзелю, айцец пратаерэй Васіль Адрэюк адправіў Сьвятую Літургію й Паніхіду па Слуцкіх Паўстанцах у БАПЦ Царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку. Урачыстая акадэмія адбылася ў царкоўнай залі.

Рэфэрат на тэму Слуцкага змаганьня прачытаў малады дасьледнік зь Беласточчыны Міраслаў Пякарскі. Дакладчык прааналізаваў падзеі, якія выклікалі паўстаньне, дадаўшы пры гэтым шмат новых цікавых інфармацыяў ды добра ўвязаў падзеі на Случчыне ў 1920 годзе ў сучасны палітычны працэс.

Заўвагамі як аб значаньні Слуцкага Паўстаньня, гэтак і аб сучасных падзеях на Беларусі падзяліліся старшыня Галоўнае Управы БАЗА, сп. Антон Шукелойць ды дасьледнік гэтых падзеяў д-р Ян Запруднік.

Акадэмія была дапоўненая выдатнай мастацкай часткай — песьнямі ды дэклямацыямі, якую зрыхтавалі сп. Пётра Нядзьвецкі — шыраказнаны беларускаму грамадзтву музыка ды Пётра Скепка — кіраўнік мастацкіх калектываў на Беласточчыне, а ад пару гадоў дзейны актывіст у беларускіх грамадах у Злучаных Штатах.

Кіраўніцтва Парафіі паклапацілася аб невялікай пачостцы для ўдзельнікаў, функцыянаваў таксама кіёск беларускіх друкаў, а спадарыні Анна Семянчук і Марыя Ханяўка ахвяроўвалі прысутным за невялікую ўзнагароду сувэнірны сьцяжок.

Акадэмія адзначэньня Слуцкага Чыну пачалася агульнай песьняй «Беларусь наша маці краіна», а закончылася нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Кіраваў акадэмію сп. Міхась Тулейка.

**В. З.**

**Пятро Скепка**

## ЖАЎНЕРАМ-ПАЎСТАНЦАМ

Над жаўнерскай магілай
Амаль што забытай
Толькі вецер-свавольнік гуляў.
Раскалыша ён дубам,
Праляціцца над жытам
І прысядзе ў бярозы гальлях.
Да жаўнерскай магілы
Часта ў госьці прыходзіў
Магутны, дастойны алень.
Патрасе ён рагамі і тупне капытам
І зноў пабяжыць дзе лень.
Над жаўнерскай магілай
Крыж пахіліўся,
Даўно адляцела кара
Перакрэсьце зламалася.
Мохам прыкрытым
Сьлед часу адціснуты там.
Над жаўнерскай магілай
Ня б'юць барабаны,
Жаўнераў ня ставяць рады.
Імя яго не ўспамінаюць
Ніхто для сям'і не дае мэдалі.
Аб жаўнерскай магіле,
Што пад лесам схавалась
Знаў толькі дзядзька Васіль.
Ён тут часам праходзіў
Па грыбы ідучы, ці то з
кошыкам поўным малін.
І пэўна-б на доўга ніхто і нічога
Аб гэтай магіле ня знаў
Каб ня ўнук Васіля — Уладзімер
Што на сьвята туды завітаў.

# БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА адзначае 40-а годзьдзе

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (БІНіМ) дасягнуў юбілею із значным творчым багажам, што неабходна адзначыць. Але, найперш пару словаў зь гісторыі гэтае арганізацыі.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва быў заснаваны ў Нью Ёрку 16-га сьнежня 1951 году як першая арганізацыя на эміграцыі шырока-дыяпазоннага навукова-дасьледчага профілю. Ініцыятарамі стварэньня БІНіМу былі д-р Вітаўт Тамуш, паэтка Натальля Арсеньнева, пісьменьнік Янка Ліманоўскі, прафэсары Леў Акіншэвіч і Мікола Дарашэвіч, Уладыка БАПЦ Васіль ды колькі іншых беларускіх навукоўцаў і дзеячоў. Абсяг дзейнасьці БІНіМу не абмяжоўваўся толькі да Злучаных Штатаў, але прадуглеждваў гуртаваньне дасьледнікаў беларусаведы і ў іншых краінах: з цягам часу філіі БІНіМу былі закладзеныя ў Заходняй Нямеччыне і Канадзе.

Праграма навуковых дасьледваньняў БІНіМу фармулявалася вельмі шырока аддаючы перавагу гістарычным ды гуманітарным дысцыплінам. За сорак гадоў дзейнасьці БІНіМу, ягоная навуковая выдрукаваная спадчына вымяраецца тысячамі бачынаў як на старонках Запісаў БІНіМу гэтак і ў іншых беларускіх і небеларускамоўных навуковых друках. За чатыры дзесяцігодзьдзі БІНіМ навязаў сталае супрацоўніцтва з дзесяткамі навукова-дасьледчых арганізацыяў і цэнтраў на захадзе ды ў апошнія гады памысна супрацоўнічае з акадэмічнымі ўстановамі на Бацькаўшчыне. Бясспрэчна, што Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва быў піянэрам у рэпрэзэнтацыі беларусаведы на захадзе ды ўклад працы БІНіМу ў агульнае беларусазнаўства вельмі значны.

Пачынаючы ў пятае дзесяцігодзьдзе дзейнасьці, кіраўніцтва БІНіМу разам з рэдакцыйнай калегіяй Запісаў, у якія ўваходзяць д-р Вітаўт Кіпель, д-р Вітаўт Тумаш, д-р Ян Запруднік, праф. Антон Адамовіч, сп. Антон Шукелойц, праф. Томас Бэрд, сп-ня Зора Кіпель, спадарства Івонка й Янка Сурвілы ды сп. Юрка Станкевіч адзначаюць у прэсавым камунікаце, што на працоўным варштаце БІНіМу цяпер ёсьць колькі надзвычай важных манаграфіяў з сучаснае беларускае гісторыі, беларускае замежнае бібліяграфіі, працаў зь гісторыі беларускае эміграцыі ды зборнікаў твораў беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў у дыяспары. Кіраўніцтва БІНіМу падкрасьляе, што каб зрэалізаваць працоўныя пляны інстытуту, патрэбная шырокая падтрымка грамадзтва і кіраўніцтва БІНіМу зварачаецца да грамадзтва за пасільнай дапамогай.

Газэта Беларус вітае юбіляра ды, як і праз мінулыя чатыры дзесяцігодьдзі, абяцае на сваіх бачынах сталую дапамогу, унікальнай у сваім профілі дзейнасьці, арганізацыі беларускае дыяспары.



Новыя кнігі ў выдавецтве БІНіМ

## БАГДАНОВІЧАЎ ЮБІЛЕЙ У ЧЫКАГА

20-га кастрычніка сёлета ў залі Беларускай праваслаўнай парафіі Сьвятога Юрыя ў Чыкага была наладжаная акадэмія прысьвечаная стагадоваму юбілею клясыка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Сабралася больш за семдзесят асобаў, каб паслухаць рэфэрат пра вялікага патрыёта Зямлі Беларускай. Сярод прысутных было шмат гасьцей з суседніх штатаў, ды нават адзін студэнт зь Менску.

Акадэмія, якую адчыніў сп. Аўген Макарэвіч, пачалася адразу пасьля Сьв. Літургіі. Рэфэрат пра жыцьцё й літаратурную дзейнасьць Максіма Багдановіча зрабіў М. Латушкін. Сп. Латушкін гэтаксама прачытаў колькі Багдановічавых вершаў, сярод іх і славутую «Пагоню».

У часе акадэміі былі раздадзеныя граматы асобам, якія дапамаглі ма- тар'яльна пры пабудове помніка Максіму Багдановічу ў горадзе Яраслаўлі, дзе паэт вучыўся ды пражыў свае маладыя гады.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ НАВЯЗВАЕ СУВЯЗЬ З ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПАЙ

Як падае часапіс **«Хрысьціянская Дэмакратыя»** (Бюлетэнь Інтэрнацыянальнай Хрысьціянскай Дэмакратыі Усходняе Эўропы, Брусэль, лета 1991) дэлегацыя Інтэрнацыянальнага Хрысьціянскага Руху наведала ўлетку Менск, дзе мела перамовы з кіраўніцтвам Дэмакратычна-Хрысьціянскага Руху на Беларусі. У рэпартажы аб перамовах у Менску, кіраўніцтва дэлегацыі паведамляе, што адбыліся таксама гутаркі зь іншымі палітычнымі партыямі дзейнымі на Беларусі, з кіраўніцтвам Беларускага Народнага Фронту, з прадстаўнікамі работніцкага руху ды наведаньні Вярхоўнага Савету Рэспублікі. Адзначаючы як факт дакананы абвешчаньне незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, аналізуючца першыя крокі маніфэстацыі гэтае незалежнасьці, як увядзеньне мытавых пунктаў, нацыянальнага банку Беларусі і іншыя.

## 100-я ЎГОДКІ М. БАГДАНОВІЧА Ў ЛЁНДАНЕ

Дня 13-га лістапада ў залі пры Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны на Фінчлей быў наладжаны урачысты вечар паэзіі ў адзначэньні 100-х угодкаў з дня нараджэньня Максіма Багдановіча. Вечар быў арганізаваны Беларускай бібліятэкай імя Фр. Скарыны і Англа-Беларускім таварыствам.

Адкрываючы сьвяточны вечар, сп-ня Вера Рыч прывітала прысутных і падзякавала спадару В. Селядцову за упрыгожаньне партрэта М. Багдановіча. Партрэт абвешаны быў узорным ручніком з нацыянальнымі вышыўкамі і на партрэце ўнізе па мастацку былі напісаны дзьве звароткі вершу «Слуцкія Ткачыхі».

Вера Рыч, якая зрабіла шмат перакладаў з Багдановіча на ангельскую мову гэтым разам сама, і на перамену із за спадарынямі Цэлья Цвіч і Патрыся Вэнз і сп. Гай Пікарда, прачыталі свае пераклады.

Патрыся Вэнз асабліва надала урачыстага настрою сваім прыгожым голасам у выконваньні песень: «Слуцкія ткачыхі», «Зорка Вэнера».

Напрыкынцы сп. Дж. Дынглей падзякаваў Веры Рыч, падкрэсьліваючы яе здольнасьці як перакладчыцы і паэткі. У гонар яе ён зачытаў верш Рыгора Барадуліна які прысьвячаўся Веры: «Ля помніка М. Багдановіча ў Менску, Вера чытае верш...» На заканчэне ўрачыстасьці была адсьпаваная «Пагоня».

**А. Здановіч**

# УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГЕРОЯ



*Ля магілкі Івана Луцкевіча на цвінтары Роса. Прамаўляе* З. Пазьняк.

Чамусьці прынята лічыць, што герой — гэта той, хто адважна загінуў на барыкадах; той, хто кінуўся у агонь ратаваць дзіця; той хто выратаваў з віру тонучага і г.д. і значна, значна радзей мы залічаем у героі тых, хто дзень за днём, год за годам аддаваў свой час, сваю працу, сваё здароўе роднаму народу, сваёй Бацькаўшчыне. Ня думаючы аб сабе, аб сваёй жыцьцёвай кар'еры, багацьці і славе. Ня думалі пра гэта нашыя вялікія тварцы і дзеячы — Максім Багдановіч, Цётка, Іван Луцкевіч. Яны згарэлі як сьвечкі на аўтары Бацькаўшчыны, ахвяравалі бяз рэшты свае сілы любаму краю, памерлі без пары ў маладыя гады…

Адраджэньне беларускай нацыі ў слаўнай сталіцы народаў — Вільні і на Віленшчыне не памінула памяці нашых беларускіх нацыянальных герояў, дзеячоў, якія сваю безмежную адданасьць Радзіме даказалі сваёй сьмерцю, або шматгадовымі пакутамі ў засьценках турмаў і за калючым дротам лягераў. Хто ж ня ўспомніць са шчырай удзячнасьцю кс. Адама Станкевіча, кс. Гадлеўскага, Ластоўскага, Іваноўскага, Цёткі, А. Клімовіча і многіх патрыётаў аддаўшых жыцьцё за свой беларускі народ?

З ініцыятывы Таварыства Беларускай Культуры ў Вільні і ў першую чаргу намаганьнямі старшыні Таварыства — Хведара Нюнькі, 18-га траўня 1991 году адбылося ўрачыстае перазахаваньне праху тварца Беларускага Музэя у Вільні — Івана Луцкевіча.

У цудоўны веснавы дзень прыехалі ў Вільню сотні прадстаўнікоў Менску, Горадні, Беласточчыны, Гданска і іншых беларускіх цэнтраў. Ня гледзячы на свае 75 гадоў прыбыў вядомы беларускі духоўнік Ул. Чарняўскі з Вішнева, а таксама пробашч з Ашмян і інш.

Калона паходу да магілкі заняла амаль усю вуліцу. Хваляваліся на ветры бел-чырвона-белыя сьцягі, высока ўзьняты крыж нёс З. Зялёнка, урну з астанкамі пакойнага — М. Рулінскі. Вялікі партрэт Івана Луцкевіча нарыхтаваў Менскі мастак Алесь Міроньчык. Узначальвала калону таксама чацьвёра духаўнікоў. Амаль палавіну узвышша, на якім будзе пастаўлены помнік (паводле праекта Міронычка) занялі сотні удзельнікаў паховін.

Пачаў урачыстасьць старшыня Таварыства Беларускай Культуры — Хведар Нюнька, даючы слова сябру Рады Таварыства — сп. А. Анішчыку. Прамоўца падкрэсьліў, што хоць народ — неўміручы, то аднак асобныя часьцінкі гэтага народу — людзі, нават самыя каштоўныя для нас — толькі тымчасовыя госьці на нашай зямлі. Асабліва вялікаю стратай для Беларусі была няўчасная сьмерць палымнянага патрыёта, слаўнага дзеяча Івана Луцкевіча.

Ён ахвяраваў сваё здароўе і маладое жыцьцё дзеля таго, каб беларускія пакаленьні маглі паглядзець на сваё слаўнае, вялікае мінулае і адчуць сябе часткай гэтай культуры і гісторыі.

Дэпутат і старшыня Народнага Фронту Беларусі — Зянон Пазьняк адзначыў, што час дзейнасьці Луцкевічаў можна назваць эпохай. Гэта была эпоха перамогі адраджэнскага духу свабоды над чорным гнётам бяздушнага імпэрыялізму, эпоха палымянага ўздыму агульна людзкіх і нацыянальных ідэалаў і пераможнага паходу праўды, справядлівасьці супраць дзікай дыктатуры і разгулу рэакцыі. Іван Луцкевіч быў, ня гледзячы на сваю нязвычайную сьціпласьць і абсалютную адсутнасьць эгаізму, адным з тых духовых волатаў,якіх ідэі пераняла цэлыя пакаленьні нашай інтэлігенцыі і народных масаў. Гісторыя забясьпечыла яму неўміручасьць у народнай памяці і дастойнае месца ў дарагой для яго Вільні.

Праф. Міхась Ткачоў падкрэсьліў вялікую ролю значнага мысьліцеля і дзеяча — ідэёляга Івана Луцкевіча, які пасьля свайго кароткага жыцця пакінуў векапомную спадчыну — Беларускі музэй. Памяць аб ім будзе жыць, пакуль будзе жыць яго Бацькаўшчына. Воклічам «Жыве Беларусь!» закончыў сваё выступленьне паважаны прафэсар.

З заключным словам выступіў ксёндз-пробашч Уладыслаў Чарняўскі, які запрасіў усіх прысутных на хаўтурную Багаслужбу ў Катэдральным касьцеле.

І вось зложана урна з зямелькай, прывезенай сп. Я. Лецкам і сп. Латышонкам з Закапанага (Польшча) (Польскія ўлады не далі дазволу на вываз у Вільню зямлі з магілы Івана Луцкевіча. І толькі асабістай ініцыятыве і ўмеласьці менскага навукоўца Яўгена Лецка мы заўдзячваем, што зямля з урнаю была перавезена па двух розных маршрутах на месца паховін. Віленскія беларусы складаюць за гэта Лецку і Латышонку глыбокую і шчырую падзяку). Засыпана магіла, паложаны вянкі і безліч кветак. Ізноў даўгая калёна прысутных кіруецца з старых магілак «Роса», аўтобусамі і аўтамашынамі ў Катэдру. Вялізная катэдры запаўняецца народам. Ксёндз-пробашч Чарняўскі і сьвятар з Ашмянаў вядуць службу на беларускай мове, на гэтай жа мове сьпявае прыбыўшы з Менску хор. Грае арган. Загадзя кс. Чарняўскі папярэдзіў, што хаўтурнае малебства будзе за упакой Івана і нявінных ахвяраў, замардаваных у Курапатах. Паабапал аўтара — беларускія нацыянальная сьцягі.

Пасьля багаслужбы прадстаўнікі Віленскіх беларусаў злажылі шчырую падзяку свайму Віленскаму апякуну — кс. Алюлісу, айцу Эйгантасу, а таксама айцам Уладыславу, Антонію і Міхалу за іх дапамогу і удзел у касьцельнай урачыстасьці. З свайго боку а. Чарняўскі на Літоўскай мове злажыў падзяку за дапамогу з боку Літоўскага духавенства і ўладаў.

У 17 гадзін адбылася урачыстая сустрэча ў доме настаўніка. Лявон Луцкевіч падзяліўся успамінамі пра жыцьцё і дзейнасьць Івана Луцкевіча (роднага дзядзькі), пра яго кіпучую энэргію, пра тое, што Іван быў маторам шматлікіх важных для нацыянальнага адраджэньня падзеяў.

Кароткі і зьмястоўны гістарычны нарыс даў менскі гісторык Сідарэвіч. З цёплым словам выступіў беластачанін — Латышонак і Таццяна Каротчанка.

**Чэмер Андрэй**

## ЗАКЛІК

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне вітаюць ініцыятыву Віленскіх Беларусаў пераносу астанкаў сьп. пам.

**ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА Ў ВІЛЬНЮ**

і дэкляруюць фінансавую дапамогу ў пабудове помніка выдатнаму дзеячу адраджэньня Беларусі.

Управы БАЗА і БІНІМу зварачаюцца да беларускага грамадзтва з просьбай слаць ахвяры на помнік Івану Луцкевічу на адрас «Беларуса».

**Алена Тарасэвіч**

# ВЯРТАНЬНЕ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

*Гэты матар'ял пра Аргентынскіх беларусаў іхны лёс пасьля прыезду ў Савецкую Беларусь — напісаны з успамінаў тых, хто і да сёньня жыве ў Менску.*

У канцы 50-х пачатку 60-х гг. савецкая прэса выбухнула цэлым валам артыкулаў, што выкрывалі драпежніцкую сутнасьць і падступнасьць заходняга капіталу. Тэма сама па сабе была ня новая для савецкай прапаганды, але публікацыі тых часоў гаварылі вуснамі рээмігрантаў: украінцаў, беларусаў і літоўцаў, што вярнуліся ў СССР пераважна з Аргентыны пасьля доўгіх гадоў жыцьця і працы там.

Прычыны раптоўнага масавага вяртаньня на бацькаўшчыну нашых суродзічаў — праблема мала вывучаная. І ўжо зусім невядома беларускай гістарыяграфіі, што-ж сталася ўрэшце з тымі, хто наважыўся ў часы хрушчоўскае адлігі пераплысьці акіян ад берагоў Аргентынскіх да берагоў Савецкіх? Ня менш цікавы і той факт, што ідэі вятаньня ў 50-60-ыя апанавалі пераважна Аргентынскіх беларусаў, а не амэрыканскіх, ці, скажам, аўстралійскіх…

Каб зразумець усе гэтыя мэтамарфозы сьвядомасьці беларусаў, давялося азірнуцца на далёкія дваццатыя гады.

Беларусь разрэзаная штучна на Заходнюю і Усходнюю. І, нягледзячы на гэты дзяржаўны падзел і розныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы разьвіцьця вельмі востра паўстала праблема перанаселенасьці краю, — урэшце, такая праблема на пачатку стагодзьдзя была і перад усімі іншымі аграрнымі краінамі Эўропы. Каб разьвязаць гэтую праблему ў БССР, савецкія ўлады пачалі масава вывозіць беларускіх сялян у Сібір. З Заходняй Беларусі, што была над уладай Польшчы, беларускія сяляне эмігравалі самі, у Канаду, у ЗША, вельмі многія ў краіны Лацінскай Амэрыкі.

Гэтая эміграцыя была выкліканая ня толькі эканамічнымі прычынамі, а так сама і жорсткай нацыянальнай палітыкай шавіністычнай Польшчы ў дачыненьні да беларусаў. У масавым параездзе праз акіян былі зацікаўленыя і шматлікія параходныя кампаніі, што мелі з гэтага вялікія прыбыткі. Іхныя агенты агітавалі сялян да пераезду, абяцалі добрае заможнае жыцьцё, працу, урадлівую зямлю ў малазаселеных краінах Паўднёвай Амэрыкі. І сяляне пачыналі зьбіраць грошы на білеты. Ехала ў асноўным моладзь, напаўпісьменная, каб зарабіць грошы, вярнуцца да сям'і ды распачаць сваю гаспадарку.

Што ж чакала іх у Аргентыне? Першыя годы было безумоўна вельмі цяжка: новы клімат, зусім іншая культура гаспадараньня, няведаньне мовы і традыцыяў карэннага жыхарства, да ўсяго цяжкі эканамічны крызіс, што ахапіў многія краіны Эўропы і Амэрыкі і цягнуўся з 1929-га і да 1933 году. Але паступова, як крызіс спадаў, беларусы пачалі сяліцца ў гарадох, уладкоўваліся працаваць на прамысловых прадпрыемствах, а гэта і большыя заробкі, і сталічны камфорт! У Буэнас-Айрэсе, дзе і рассялілася значная частка беларусаў, досыць моцныя пазыцыі займала камуністычная партыя Аргентыны. Гэтаму, дарэчы, паспрыялі і эканамічныя цяжкасьці, і проста папулярнасьць сацыялістычных ідэяў сярод найбольш беднай часткі насельніцтва. Патрапіўшы на завод, эмігранты амаль аўтаматычна траплялі ў кола ўвагі камуністычных прафсаюзных лідэраў.

Што да нацыянальнага гуртаваньня, нацыянальнай ідэі, яна практычна не разьвілася. Адсутнасьць сярод эмігрантаў інтэлігенцыі, тутэйшасьць і правінцыйнасьць псыхалёгіі, прасавецкая арыентацыя і беларусаў і кампартыі Аргентыны абумоўлівалі прарасейскую культурную скіраванасьць. Усё расейскае лічылася прагрэсыўным, бо за ім — сацыялістычная будучыня.

Напрыканцы 20-х гадоў беларусы бяруць актыўны удзел у чыннасьці кампартыі і сфармаваных да таго часу украінскіх прасавецкіх згуртаваньняў, як «Саюз украінскіх работніцкіх арганізацыяў». Неўзабаве нарадзілася першая украінска-беларуская арганізацыя (СУБРА), якая прапагандавала свае ідэі на старонках дзьвюх нелегальных газэт: "Українська робітнича газэта" і расейскамоўнай для беларусаў "Рабочай правде". Нельга сказаць, што ўсе выхадцы з былой расейскай імпэрыі падтрымлівалі ідэю сацыялістычнай будучыні і сусьветнай рэвалюцыі. На той час у Аргентыне дзейнічалі згуртаваньні белай эміграцыі, а таксама украінскай нацыянальнай, пад назваю «Просвіта». З імі і пачаліся сутычкі, найперш ідэалягічныя. Але гэтым не абмяжоўвалася праца Саюза украінскіх і беларускіх работніцкіх арганізацыяў, скарочана СУБРА. Яны пашыралі свае ўплывы на правінцыю, асабліва Чака і Міс'энас, дзе было багата украінскіх і беларускіх сялян-каланістаў. Заклікалі да страйкаў, маніфэстацыяў, непадпарадкаваньня ўладам, а ў буйных гарадох наважваліся, нават, на другі-трэйці год пасьля прыезду, ужо сілаю разганяць аргентынскіх рабочых — штрэйкбрэхераў. Нату-

## ДАСТОЙНЫ АЙЦЕЦ ТАМУШАНСКІ:

Ад імя Выканаўчага Камітэту Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, і ад мяне асабіста, маю прыемнасьць і гонар вітаць Вас з 25-м юбілеем сьвятарства — 25-мі ўгодкамі Вашай службы Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі.

Мы высока цэнім Вашую адданасьць беларушчыне, Вашую адказную працу на становішчы кіраўніка беларускай сэкцыі Радыя Ватыкану.

Жадаем Вам духовых і фізычных сілаў у Вашай далейшай працы й Сто Год! Памагай Вам Божа!

**З глыбокай пашанай**
**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня**



## ВІТАЕМ

пллённага беларускага паэту аўтара шматлікіх зборнікаў вершаў, ды кагадзе закончанга трохтомніка «Выбраных твораў»

## ЯНКУ ЮХНАЎЦА

з 70-ымі ўгодкамі ды жадаем шмат посьпеху ў далейшай працы ды здароўя й шчасьця ў прыватным жыцьці.

**Рэдкалегія газэты «Беларус»**
**Управы БІНіМ'у і БАЗА**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ ЗАХОДНЯЙ АЎСТРАЛІІ

31-га жніўня сёлета ў Пэрце на Пляцы Форэст адбылася вялікая маніфэстацыя, ў якой прыймала ўдзел пару тысячаў дэманстрантаў. Мэты маніфэстацыі былі наступныя: дамаганьне спыненьня ваенных дзеяньняў у Харватыі й Славеніі, прызнаньне краінамі вольнага сьвету абвешчанай незалежнасьці Славеніі, Харватыі, Беларусі, Украіны й другіх рэспублікаў, як у СССР гэтак і ў Югаславіі.

Калёны з нацыянальнымі сьцягамі й транспарэнтамі — Харваты, Беларусы, Славенцы і Украінцы — па вуліцах Пэрту ішлі да пляцу, дзе іх спаткалі Балтыйцы, якія ў гэтым самым часе адзначалі прызнаньне дзяржаўнасьці Літвы, Латвіі й Эстоніі. Адбыўся ўрачысты мамэнт: вітаньне нацыянальных сьцягоў і пераклічка. Пасьля гэтага ўсе нацыянальныя сьцягі былі выстаўлены на трыбуне. Праграмай кіраваў сакратар Сусьветнай Лігі Свабоды. Па прадстаўленьні народаў, якія бралі ўдзел у дэманстрацыі, ён папрасіў Летувіскага каталіцкага сьвятара сказаць малітву за паняволеныя народы. Вітаў дэманстрантаў і старшыня СЛС, ён-жа й быў першым прамоўцам. З кароткай, але глыбокага зьместу прамовай выступіў гэтаксама й прадстаўнік ад Беларусаў. Найперш ён вітаў Балтаў з нагоды прызнаньня іхнай дзяржаўнасьці шэрагам дэмакратычных краінаў, а затым выказаў надзею, што заходнія краіны зразумеюць сваю памылковую палітыку і прызнаюць абвешчаную незалежнасьць Беларусі, Украіны, Славеніі ды Харватыі.

## З РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ ЗАХОДНЯЙ АЎСТРАЛІІ

Пасьля выезду ў палове 1968 году Архіяпіскапа Сяргея з Пэрту ў Адэляйду, рэлігійнае жыцьцё праваслаўных беларусаў гэтага штату поўнасьцю занядпала. Частка зь іх прыядналася да расейскага прыходу, а некаторыя — да ўкраінскага і сэрбскага. Гэткі стан трываў 23 гады. І толькі ў чэрвені сёлета праваслаўныя беларусы спаткалі а. Уладзімера Зайка, што прыехаў у Заходнюю Аўстралію з Англіі і папрасілі яго адправіць для праваслаўных у англіканскай царкве сьвятога Лукі ў Майленд службу Божую. З гэтага часу і пачаліся захады аднаўленьня беларускага прыходу.

25-га жніўня была скліканая зборка праваслаўных беларусаў, на якой было пастаноўлена аднавіць прыход Жыровіцкай Божай Маці ў Пэрце, выбраная ўправа і атрыманая згода ад а. Уладзімера быць настаяцелям прыходу. 26-га жніўня Архіяпіскапу БАПЦ Мікалаю была высланая просьба назначыць а. Уладзімера настаяцелям ды прыняць прыход Жыровіцкай Божай Маці ў Пэрце пад сваю юрысдыкцыю. 5-га верасьня ад Архіяп. Мікалая атрымалі пасьвектчаньне аб прыняцьці прыходу ў юрысдыкцыю, зацьверджаньні парафіяльнай управы ды назначэньні а. Уладзімера настаяцелям прыходу. У міжчасе атрымалі ад англіканскага архіяпіскапа Пэрту дазвол на служэньне ў царкве сьвятое Марыі, пры 42 Колін стрыт, Вэст Пэрт. Пакуль што адпраўляюцца службы Божыя ў гэтай царкве раз на два тыдні а дзесятай гадзіне раніцы. Аднак, калі прыхаджане захочуць, гэткі стан можа зьмяніцца.

**Р. М.**

## УЗНАГАРОДА ЗА ВЫДАТНУЮ ПРАЦУ Ў АСЬВЕЦЕ.

Міхась Раецкі малодшы, сучасны старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, ад 1980-га году працуе настаўнікам. Спачатку ён настаўнічаў на правінцыі, а ў 1982 годзе, на ўласную просьбу, быў пераведзены ў мэтрапольную школу Іст Кэнвік, непадалёку ад сталіцы штату Заходняй Аўстраліі — Пэрту. Якраз тут, у Іст Кэнвіку, ён і пасьвяціў свой час і здольнасьці для навучаньня, зарганізаваньня школьнай бібліятэкі ды пашырэньня вестак пра Беларусь. Быў ён гэтаксама й сааўтарам кнігі аб гісторыі школы ў гэтай мясцовасьці.

24-га кастрычніка сёлета Міхась Раецкі малодшы за сваю адданую працу атрымаў заслужаную ўзнагароду — Пасьветчаньне Выдатнасьці. У часе ўручэньне пасьветчаньня, у прысутнасьці вялікай колькасьці настаўнікаў, гасьцей, прадстаўнікоў парлямэнту й гарадзкіх уладаў месца Госнэльс, акруговы супэрінтэндэнт, выказваючы падзяку Міхасю, сказаў: «Апрача таго, што Міхась зьяўляецца выдатным адукатарам, ён ёсьць, магчыма, найлепшым бібліятэкарам штату Заходняя Аўстралія».

З нагоды атрыманьня ўзнагароды жадаем Міхасю здароўя й посьпехаў у галіне адукацыі ды пашырэньня вестак аб Беларусі.

**Р. М.**

## ДР. БАРЫС КІТ — АКАДЭМІК

За ягоную працу ў галіне астранаўтыкі, якую ён праводзіў як дасьледнік у амэрыканскіх фірмах, за ягоныя публікацыі і рэфэраты на астранаўтычных кангрэсах, др. Барыс Кіт быў сёлета абраны сябрам Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (International Academy of Aeronautics, IAA, Paris). Урачыстае ўручаньне дыплёмаў новым акадэмікам адбылося 4-га кастрычніка сёлета ў Атаве, у Канадзе на злучаным паседжаньні IAA і Royal Society of Canada.

## ВЁСКА НАД ЯСЕЛДАЙ

Гістарычна-краязнаўчы нарыс мястэчка Моталь, аўтара П. С. Стасевіча (маталяніна). Кніжачка малога памеру, на 104 бачыны, выдавецтва «Полымя», Менск, 1991 г. Аўтар сягнуў у глыб да 1422 г. часоў Вітаўта. Нарыс добры, відаць аўтар карыстаўся яму даступным архіўным матар'ялам. Крыху замнога даніны адвёў камуністычнай уладзе, але затое многа чаго недаказаў; прабель, — падзеі весені 1939 г., забойствы; савецкія вывазы маталян на Сібір 1939-1941 гг., каля 100 сем'яў; партызанскія зьдзекі над маталянамі й забойствы за часамі нямецкай акупацыі 1941- 1944. Трэба сказаць, што гэта добрае дапаўненьне нарысу «Моталь», надрукаванага ў часопісе «Зважай» у н. 2, 3, 4, 5 і 9.

**Спраставаньне:** калядна-навагодня індывідуальнае прывітаньне каштуе 20 ам. дал., а прывітаньне ад арганізацыяў, у рамках каштуе 50.00 ам. дал. Расцэнкі пададзеныя ў Беларусе раней — 10.00 і 25.00 — памылковыя.

ральна, такая дзейнасьць не засталася па-за ўвагай аргентынскіх уладаў, дагэтуль досыць ляяльных да культурніцкіх і асьветных эміграцкіх установаў.

Ва ўмовах перасьледаваньняў з боку паліцыі, унутраных непаразуменьняў паміж украінскімі нацыянал-камуністамі і беларускімі камуністамі-касмапалітамі, СУБРА вымушана была самаліквідавацца.

Ад гэтага часу пачынаюць узьнікаць ужо ўласнабеларускія арганізацыі. У 1934 г. — першае Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства, называлася яно «Грамада». У Буэнас-Айрэсе паўстала Беларускае Таварыства «Культура». У 1937 г. было закладзенае Таварыства Беларускай бібліятэкі імя Івана Луцкевіча, ды іншыя. Усе гэтыя новастворанья арганізацыі, натуральна, не адмовіліся ад ранейшай прасавецкай арыентацыі, але выступалі асьцеражней, больш увагі надаючы цяпер культурніцкай працы; арганізоўвалі вечарыны ў гонар Пушкіна, Сталіна, Максіма Горкага і, цытую, «друга всего белорусского народа» Янкі Купалы.

Адзіным, бадай што, выключэньнем у гэтым шэрагу новых згуртаванняў, была бібліятэка імя Івана Луцкевіча. Самая назва ўжо сьведчыла, што арыентацыя ў сяброў гэтае групы, была нацыянальная беларуская.

Пры бібліятэцы дзейнічалі курсы беларускай мовы, тэатр ставіў беларускія спэктаклі. Пры гэтым ад справаў палітычна-камуністычных сябры згуртаваньня сьвядома ўхіляліся.

Неўзабаве, у 1939 годзе, усе паасобныя таварыствы згуртаваліся ў Беларускую Фэдэрацыю, узначалілі яе Ян Пятручак і Бараноўскі. Да Фэдэрацыі далучаюцца ўсё новыя згуртаваньні: «Якуба Коласа» (пазьней пераназвалася ў «Белавеж»), «Мінск», «Беласток», «Рассвет» ды іншыя, тысячы нашых суродзічаў з 50-цітысячнай амаль эміграцыі.

Пры фэдэрацыі існавалі хор, струнны аркестр, тэатральныя трупы, таксама курсы расейскай і гішпанскай моваў, карысталіся вялікім попытам, між іншым, курсы бугальтэрыі.

Ад пачатку заснаваньня, фэдэрацыя наладзіла выданьне ўласнай расейскамоўнай газэты «Эхо», а, пачынаючы з 40-га году — «Белорусских иллюстрированных календарей», якія шырака падавалі інфармацыю пра шчасьлівае жыцьцё ў Савецкім Саюзе, друкавалі артыкулы пра Леніна, Сталіна, калгасы і Чырвоную Армію, многія матар'ялы — былі передрукі з газэты «Праўда». Выданьні досыць шчодра аздабляліся фотаздымкамі, пераважна групавымі: хто ў цывільным, а хто і ў расейскіх касаваротках ды сарафанах. На адным з фотаздымкаў нават — беларускі ансамбль балалаечнікаў.

Як сьведчаць тыя-ж фатаздымкі, сябры бібліятэкі імя Івана Луцкевіча стала карысталіся беларускай нацыянальнай сымболікай. На жаль, прачыннасьць гэтага асяродку беларускай культуры на эміграцыі мала што вядома.

Як ужо гаварылася, мова друкаваных ворганаў Беларускае Фэдэрацыі была расейская, часам нават беларускія вершы друкаваліся ў перакладзе. Рэдакцыя «Белорусского календаря» тлумачыла гэта так (цытую): «Этот календарь в большей его части напечатан на русском языке, что как бы не соответствует своему названию. Сделано это потому, что белорусская эмиграция, в большинстве своем, незнакома со своим литературным языком, и кроме того, Белоруссия входит в состав великих народов Советской России».

Ня дзіўна, што такая тэндэнцыя прывяла ўрэшце да ўзьнікненьня ў галовах найбольш скамунізаваных эмігрантаў ідэі славянскай супольнасьці. Першы зьезд Славянскай Фэдэрацыі адбыўся ў канцы 1943 году. Асноўную масу славян у Фэдэрацыі складалі зрусіфікаваныя беларусы ды украінцы з Парагваю, Уругваю, Бразыліі ды Аргентыны. Трохі меней было расейцаў і палякаў. Астатнія славяне, як чэхі, баўгары, славакі, перавагу аддавалі сваім нацыянальным арганізацыям.

Узначаліў славянскую фэдэрацыю вядомы расейскі эмігрант, інжэнэр, нашчадак расейскага дваранскага роду Павал Шастакоўскі. Калісьці ў трыццатыя, ён быў тэхнічным дырэктарам усіх лацінаамэрыканскіх прадпрыемстваў знакамітай аўтамабільнай фірмы «Фіят». Ажно пакуль не захапіўся сур'ёзна камуністычнай ідэяй, і ня стаў прафэсыйным рэвалюцыянэрам. У 40-я гады, праз Парагвай (бо ў Аргентыне савецкага пасольства не было), ён нават прыняў савецкае грамадзянства.

Славянская Фэдэрацыя, якую ён узначаліў, узяла найперш за мэту, дапамагаць Савецкаму Саюзу ў барацьбе з нямецкімі фашыстамі.

Камітэты дапамогі слалі на фронт абутак, адзеньне, харчы і грошы; многія самі імкнуліся патрапіць на фронт, а некаторыя, самыя настойлівыя, траплялі, як, напрыклад, спадар Байчук, які нямаведама як запісаўся ў армію Андэрса, ваяваў у складзе польскага легіёну, што фармаваўся на тэрыторыі Савецкага Саюзу. Вярнуўшыся пасьля вайны зноў у Аргентыну, Байчук спрабаваў давесьці да розуму беларусаў-эмігрантаў пабачанае жыцьцё ў СССР, сутнасьць «самага перадавога ладу». Але ягоным словам не давалі веры. Агульная эўфорыя перамогі засьціла вочы. Байчук вымушаны быў нават пераехаць у іншы горад.

Дарэчы, нельга сказаць, што беларускія эмігранты ў Лацінскай Амэрыцы былі пазбаўленыя праўдзівай інфармацыі пра Савецкую краіну. Выходзіла багата артыкулаў, нават кні-успамінаў, роспаведаў жывых сьведкаў пра злачынствы сацыялістычнай сыстэ-

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ВЕЧАР ЛІРЫКІ І СЬМЕХУ Ў САЎТ-РЫВЭРЫ



*Выступае Ганна Рыжкова*

Шчасьлівым зьбегам абставінаў скрыжаваліся у Нью-Ёрку шляхі дзьвюх заслужаных артыстак Беларусі, Ганны Рыжковай і Валянціны Пархоменкі, а таксама сьпевака і музыкі Алеся Казака, мужа Валянціны. У сыботу 16 лістапада у саўтрывэрскім Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбыўся іхны канцэрт, праграма якога складалася з мастацкага чытаньня Рыжковай беларускай паэзіі, у тым ліку гумарыстычнай, ды лірычных і народных песьняў у выкананьні Пархоменкі і Казака.

Заслужаную актрысу беларускай эстрады Ганну Рыжкову прадставіла аўдыторыі сп-ня Ірэна Цуприк, жыхарка Саўт-Рывэру і даўняя сяброўка Рыжковай, якую яна нарэшце змагла запрасіць да сябе ў госьці, дзякуючы палітычным зьменам апошняга часу.

Пра Ганну Рыжкову энцыкляпэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі піша як пра «актыўную прапагандыстку беларускай паэзіі». Такою яе і пабачылі слухачы саўтрывэрскага канцэрту як толькі яна выйшла на сцэну ў прыгожай стылізаванай пад народнае сукні.

Сакавітая мова Ганны Рыжковай, выразная дыкцыя, свабоднае валоданьне матар'ялам і нявымушанасьць манеры гутаркі забясьпечылі актрысе адразу-ж кантакт з аўдыторыяй. Рэпэртуар у артысткі багаты. Пачала яна зь вершаў, прысьвечаных роднаму краю, роднай мове. Цёплыя задушэўныя словы. Неўзабаве акторка перайшла да бягучых справаў, да праблемаў перабудовы, гаворачы пра ўсё з гумарам, якім яна славіцца. Праз прызму гумару й сатыры артыстка перадала шмат якія мамэнты і сучаснага жыцьця на Беларусі, і агульна чалавечых дачыненьняў, ды рознымі камічнымі мамэнтамі, шырака адлюстраванымі ў беларускай літаратуры. Аўдыторыя заходзілася ад сьмеху. Бальшыні слухачоў, бадай, не даводзілася быць на канцэрце такога ёмістага народнага слова, і публіка давала аб гэтым знаць хохатам ад душы і шчодрымі воплескамі. Гэтую цяпліню адразу-ж адчула акторка, якой, як яна сказала, было вельмі прыемна ўспрыймаць такую жывую рэакцыю на беларускае слова на другім канцы сьвету.

Сьпевакі Валяньціна Пархоменка і Алесь Казак з акардыёнам, добра ведамыя слухачам з папаярэдніх выступленьняў, запоўнілі другую палавіну канцэртнай праграмы лірычнымі і народнымі песьнямі ў салёвым выкананьні Пархоменкі і дуэтных сьпевах. Народная артыстка Беларусі В. Пархоменка мае багаты рэпэртуар, валодае цудоўным мэлядыйным голасам і перадае зьмест песьні з глыбокім пачуцьцём і тонкімі нюансамі як у лірычным, гэтак і ў гумарыстычным жанры. Прыхільнікі таленту В. Пархоменкі мелі нагоду набыць касэтку зь еймымі песьнямі, запісанымі пад выдатны аркестравы акампанімэнт. Песьні слухаюцца зь вялікай насалодай і становяць адзін з найлепшых падарункаў для кожнага, хто любіць музыку і роднае слова.

**Я.З.**

## БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДНЫЯ ЯЛІНКІ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗІ



*У цэнтры: Беларуская ялінка ў* Мэдоўлэнд. Фота Надзі Кудасавай.

Фэстываль ялінкаў Цэнтру Канфэрэнцыяў у Мэдоўлэнд пачаўся 4-га сьнежня ўрачыстым прыняцьцём для запрошаных гасьцей. Беларускую грамаду на гэтай урачыстасьці прадстаўлялі сп-ня Надзя Кудасава і сп. Васіль Русак. У вялізарнай, сьвяточна прыбранай залі цэнтрам увагі былі ялінкі; іх было там каля 135-ці. Беларуская ялінка выдзялялася тым, што была яна ўбраная традыцыйнымі беларускімі аздобамі. Фэстываль ялінак трываў да 8-га сьнежня. Падчас фэстывалю ладзіліся мастацкія выступы. Увесь даход быў прызначаны для спаралiжаваных дзяцей.

Наш удзел у імпрэзе быў асягнуты стараньнямі сп-ні Галіны Русак і ялінка была наладжаная з дапамогай сп-ні Надзі Кудасавай і Натальлі Русак.

Як і ў мінулыя гады, беларусы былі запрошаныя ўвабраць ялінку ў Мадзярскім Грамадзкім Цэнтры ў Нью-Брансьвіку. Ізноў беларуская ялінка выдзялялася сваёй арыгінальнасьцю — народнай дэкарацыяй.

Варта зазначыць пры гэтай нагодзе, што ўжо здаўна вытварыліся між беларусамі й мадзярамі ў Нью Джэрзі добрыя адносіны ў палітычных ды культурна-грамадзкіх дачыненьнях.

Сёлета адміністрацыя штату зьвярнулася да беларусаў ад імя сп-ні Люцынды Флёрыё, жонкі Губэрнатару характэрны беларускі арнамэнт для ялінкі ў губэрнатарскай рэзыдэнцыі ў Друмвакэт. Была ім падараваная адна з прыгажэйшых льняных лялек зь Беларусі.

Губэрнатар Флёрыю заўсёды быў і ёсьць прыхільна настаўлены й дапаможны ў патрэбах беларускай эміграцыі ў штацу Нью-Джэрзі.

**В. Русак.**

## ЗАПУСКІ У ГАЙЛЕНД ПАРКУ

24-га лістапада Парафія Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку наладзіла Запускны Абед перад Піліпаўскім постам. Сёлета абед быў вельмі ўрачыстым, бо ў праграму было ўлучанае адзначэньне 100-годзьдзя з дня нараджэньня Максіма Багдановіча.

Спадарыня Галіна Русак у сваім рэфэраце «Багдановіч — майстра красы» падкрэсьліла, што паэт у сваім кароткім жыцьці, пераважна вонкі Беларусі, патрапіў вывесьці нашую літаратуру да вышыняў роўных з лепшымі літаратурамі сьвету. Багдановіч узбагаціў нашую літаратуру у сэнсе формы й тэматыкі. У яговай творчасьці памастацку прадстаўленыя тэмы агульна-людзкія, нацыянальныя, асабістыя і тэмы фальклёру й прыроды. Рэфэрат свой сп-ня Русак закончыла прачытаньнем багдановічавага «Апокрыфа».

---

мы. Але ўся гэтая інфармацыя адкрыта ігнаравалася і кваліфікавалася прасавецкімі эмігрантамі, як імпэрыялістычная прапаганда.

Першыя кантакты Аргентынскіх беларусаў з савецкімі ўладамі прыпалі на пачатак вайны, 42 год, калі ў Буэнас-Айрэс прыйшоў савецкі карабель «Уладзімір Маякоўскі», зь якім славянская фэдэрацыя перадала савецкаму народу дапамогу: грошы і рэчы.

Наступны год прынёс непрыемнасьці і праблемы: 4 чэрвеня 1943 году ў Аргентыне да ўлады прыйшлі вайскоўцы — дзяржаўны пераварот.

Забаранілі дзейнасьць Кампартыі Аргентыны. Афіцыйна дазвалялася толькі культурніцая праца. Але і ў гэтай складанай сытуацыі нашыя суродзічы ня кінулі свае ідэйнае барацьбы, а распачалі стварэньне падпольных партыйных структураў у Аргентынскіх правінцыях. Так, вядома, што дзякуючы дзэйнасьці беларуса Яўгена Пораца, у правінцыі Міс'ёнас, быў заснаваны раённы камітэт фэдэрацыі камуністычнай моладзі, у які, апрача Яўгена Пораца, увайшлі яшчэ 5 украінцаў.

З 1946 году ў Аргентыне адчыняецца гандлёвая місія СССР, крыху пазьней — пасольства. Ад гэтага часу савецкія ўлады ўжо кантралююць усю дзейнасьць эміграцкіх арганізацыяў, апроч тых, што склалі адкрытую апазіцыю прасавецкаму славянскаму руху, маецца на ўвазе Бібліятэка імя Івана Луцкевіча, таварыства «Украінскі дом» і тых расейскіх эмігрантаў, што групаваліся вакол газэты «Русский в Аргентине».

У лістападзе 1946 году адбыўся другі зьезд Славянскага Саюзу, ужо з удзелам прадстаўнікоў пасольстваў СССР, Польшчы, Баўгарыі, Югаславіі ды Чэхаславаччыны ў Аргентыне. Беларусы, украінцы, расейцы, і нават літоўцы, у хуткім часе пачалі масава адмаўляцца ад аргентынскага грамадзянства ды прымаць савецкае. Будынак савецкага пасольства на вуліцы Пасадас стаўся для эмігрантаў сымбалем справядлівага жыцьця на Бацькаўшчыне. Зь любымі праблемамі, нават з асабістымі, як прыкладам развод мужа з жонкай, эмігранты ішлі да пасла. Хадзіла нават такая сяроД дасьціпных прымаўка: «Калі ў Маскве халадзее, дык камуністы ў Аргентыне шалікі павязваюць».

Цікава, што з паваеннымі эмігрантамі кантакты так і не наладзіліся. Іх лічылі памагатымі фашыстаў і здраднікамі Савецкай радзіме. І хоць тыя, часам дасылалі свае эміграцкія газэты і літаратуру ў прасавецкія арганізацыі суродзічаў, іх, на параду пасольства, выкідалі, ірвалі не чытаючы.

Затое вялікім попытам карысталася савецкая газэта для суайчыньнікаў за мяжой «За вяртаньне на Радзіму». Яе нават ня трэба было выпісваць. Пасольскія службы высылалі задарма на ўсе магчымыя адрасы, абы чыталі. Не адрозьнівалася канцэптуальна ад савецкай і ўласная газэта Славянскага Саюзу, бо ж ёй апекваўся сам першы консул Ігар Бударын. Паліцыя меркавала, што савецкі бок ня толькі цікавіцца газэтай, але і фінансуе працу ўсяго выдавецтва.

Ляяльнасьць і цярплівасьць аргентынскіх уладаў скончылася ў 1949 г., калі Славянскі Саюз прызначыў свой трэйці зьезд і запрасіў для ўдзелу ў ім савецкіх пісьменьнікаў: ад расейцаў — Аляксея Суркова, ад украінскіх — Паўла Тычыну, і ад беларусаў — Пятруся Броўку.

Пасланцам Савецкага Саюзу пасольства Аргентыны ў СССР па-прасту не дало візы, кангрэс разагналі, а сам Славянскі Саюз забаранілі.

Але і гэтым разам імкненне на Бацькаўшчыну перамагло афіцыйныя забароны, тым болей, што, як ужо падкрэсьлівалася, многія з эмігрантаў былі ўжо грамадзянамі СССР. У 50-х гг. сувязь з савецкай бацькаўшчынай яны наладжвалі праз «Таварыства культурных сувязяў Аргентына — СССР» непасрэдна праз савецкага пасла Рыгора Разанава ці праз 1-га сакратара пасольства Валерыя Ганчарова.

Каб хоць трошкі перадаць атмасфэру таго часу, прывяду ўспамін беларуса-эмігранта Сьцяпана Гукалюка з дасланага ім ліста ў газэту «Беларускі Голас» (Таронта, Канада). «Рэдка хто яшчэ жыве з тых, што тады пераехалі ў Бразылію. Маладзейшыя потым перасяліліся ў Парагвай, дзе мелі добрую працу, некаторыя ў Аргентыну, але там было цэлы час неспакойна, бо гэтая бандытня чырвоная, кідала бомбы і страляла людзей нават у Буэнас-Айрэс, пакуль іх ваенныя ня прысьмірылі.»

Многія эміграцкія краіны ў 50-тыя гады забаранялі ўсялякую камуністычную прапаганду, так было і ў Канадзе, і ў Злучаных Штатах, і ў Аўстраліі. Тым ня менш прапаганда вялася. Эмігранты успаміналі, што ў сярэдзіне 50-ых да іх з Канады прыехаў таксама эмігрант Рыгор Акулевіч. У 40-я, ён па запрашэньню ўраду СССР, як госьць, у асабістым вагоне наведаў краіну сацыялізму, і, вярнуўшыся ў Канаду, пачаў выдаваць прасавецкую газэту...

Нехта ў 50-ыя фінансаваў ягоныя ваяжы ў розныя краіны сьвету, дзе ён заклікаў эмігрантаў да вяртаньня. Праўда, з тых жа ўспамінаў, у некаторых прыватных размовах вяртацца ён ня раіў, маўляў, тут я хоць грамадзкі дзеяч і журналіст, а там — нішто.

Але ціск амаль саракагадовай прапаганды меў плён. Беларусы, украінцы і літоўцы, і нават некаторыя карэнныя аргентынцы ўжо зьбіралі грошы на параходныя квіткі.

**(Працяг у наступным нумары)**



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Азарка Марыя, Янка й Ірена*
*Азарка Нона, Юрка й Хрыстафор*
*Акуль Кастусь*
*Акуліч Лена, Адам зь сям'ёй*
*Андрусышын Юля, Павел, Юрка й Данчык*
*а. Андраюк Васіль, матушка Вольга і дзеці Эла, Таіса й Даніла*
*Арцюх Лёля й Язэп*
*Балкоўская Зофія*
*Бартуль Вера, Францішк зь сям'ёй*
*Брылеўскія Лянгіна й Уладзімір*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Гасьцееў Стэфа й Юрка*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й Сяргей*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубовік Ларыса, Аўген, Эрык і Аляксандр*
*Дубяга Жэня, Алег, Юльян і Тамаш*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лена*
*Дубяга Генадзь малодшы*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Сям'я Занкавічаў*
*Запруднік Янка й Вера*
*Каваленка Вера й Янка*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сем'ямі*
*Кажура Марыя й Пётра*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Карніловіч Слава*
*Карніловіч Сяргей*
*Каханоўсякая Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка*
*Кольба Тамара й Аляксандар*
*Кудасава Надзя*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандр*
*Літвінка Янка*
*Лукашэвіч Марына*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мельяновіч Долорэс і Васіль*
*Місюль Янка, Генадзі, Вікторыя, Алег і Наталія*
*Мярляк Ганна й Кастусь*
*а. Надсон Аляксандар*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся Лёня й дзеці*
*Орса-Рамана Алла й Францішк, Павал і Коля*
*Пануцэвіч, Ірэна*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Надзя й Мікола*
*Сапежынская Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Семенчук Анна й Анатоль*
*Сільвановіч Міхась, Ніна Аляксандар і Андрэй*
*Стагановіч Марыя й Лявон*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь ся'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвіла Івонка, Янка з сям'ёй*
*Сьліўка Ўладзімер*
*Сяргіевіч Вера й Васіль*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда й Янка*
*Харавец Галя й Уладзімер*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Юхнавец Іра, Янка, Канстантын*
*Яраховіч Оля й Астап*
*Яцэвіч Валентына*








**УПРАВА БАЗА, АДДЗЕЛ ЛОС-АНДЖЭЛЭС**
**жадае ўсім чытачом «Беларуса»**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**і**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**

**ВЫСАКАПАВАЖАНАМУ КІРАЎНІЦТВУ І ПРЫХІЛЬНІКАМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**
**шчыра жадае КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

***ФУНДАЦЫЯ ІМЯ ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА***
***жадае ўсім чытачом «Беларуса»***
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І***
***ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ***

**ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**
**КААРДЫНАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ:**
**жадаем сваім сябром-арганізацыям**
**ЗГУРТАВАНЬНЮ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ,**
**БЕЛАРУСКАЙ САМАПОМАЧЫ АТАВЫ,**
**ЗГУРТАВАНЬНЮ БЕЛАРУСАЎ ПРАВІНЦЫІ КВЭБЭКУ І**
**ПАРАФІІ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ТАРОНТА**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**



**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ УСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ
І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ
ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
*вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ**
**1992 ГОДАМ!**

**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

*Шчыра вітае ўсіх сваіх вернікаў, усіх суродзічаў-Беларусаў і прыяцеляў БАПЦ з Раством Хрыстовым і Новым 1992 годам. Няхай Усемагутны ахоўвае ўсіх нас Сваёй апекай і дазваляе нам спакойна маліцца ў нашых сьвятынях. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Ягоную ласку.*

*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*

*З дaручэньня Першагіерарха БАПЦ*
*Мітрапаліта Мікалая*
**Архім. а. Карп Стар**

***ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ***
*жадае сваім сябром і прыхільнікам*
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ***
***і***
***ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!***

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ (ЗША)**
*вітае ўсіх сваіх супрацоўнікаў і прыхільнікаў*
**З КАЛЯДНА-НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае ўсякае памыснасьці*
*ў асабістым жыцьці і грамадзкай працы!*

***ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА***
***АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ***
вітае сваіх сяброўак і сяброў ды ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва з
***КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1992 ГОДАМ!***

***УПРАВА ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ БАПЦ***
***у Гайленд-Парку, Н.-Дж.***
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў і прыяцеляў*
***З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ***
*ды жадае добрага здароўя*
*й шмат шчасьця ў НОВЫМ ГОДЗЕ!*

**УПРАВА АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ**
**ДЫ ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**

**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ЦАРКВА**
**кіраваная Э. Рыжым**
**вітае сваіх пасьлядоўнікаў і**
**БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА з**
**Сьвяточным Сэзонам**

## СЬВ. ПАМ. ДЗЯДЗЬКА МІХАСЬ МІЦКЕВІЧ

Дажыў «дзядзька» Міхась Міцкевіч глыбокае старасьці. Гады жыцьця былі рознымі й нялёгкімі, як розным быў лёс і яго Бацькаўшчыны — Літвы-Беларусі. Дзядзька Міхась і Бацькаўшчына, былі нібы пародненымі.

Найглыбейшы ўспамін пра дзядзьку Міхася — Мікалеўшчына. Няраз позьнімі восеньскімі вечарамі заходзіў ён са свайго хутара да нас, заўсёды з тоўстым кіем у руках, пагаварыць з бацькам, або часамі паспрачацца з маткаю. Прыходзіліся яны дваюраднымі. Характар у дзядзькі быў, як казала маці, «цьвёрды, старакавалерскі». Усё гэта памятаецца, як праз сон.

Больш яскрава запомніўся мне дзядзька Міхась калі, здаецца ў 1940 годзе, упоўнач НКВД забрала майго бацьку й наша сям'я апынулася амаль на дварах. Вось тады дзядзька прыехаў на калёсах і забраў нас да сябе на хутар. Тады дзядзька працаваў дырэктарам школы, маці й цётка Надзя даглядалі яго гаспадарку, а я хадзіў у 5-ю клясу. Жылі згодна й дружна. У гэтым часе я пазнаў дзядзьку Міхася блізка, бо трымаў ён мяне «на воку».

Дзядзька Міхась савецкага рэжыму й парадку амаль адкрыта не любіў і ні ў якія палітычныя структуры не ангажаваўся. Калі была магчымасьць выбару, ён падаўся на нялёгкую эміграцыю.

На эміграцыі, як і на бацькаўшчыне, дзядзька быў заняты ў школьніцтве, бо гэты занятак ён заўсёды любіў і цаніў.

Дзядзька Міхась быў чалавекам добрым, самаўпэўненым і веруючым. Гэта быў дабрадушны й цудоўны чалавек, вялікі патрыёт і любіў сваю Бацькаўшчыну як нешта сьвятое.

Для беларускага школьніцтва на эміграцыі зрабіў дзядзька Міхась нямала. Але мала хто ведае, што ён пераклаў на беларускую мову Напрыстольнае й Паспалітае Евангельле, якое цяпер памалу друкуецца.

Пакінуў дзядзька Міхась па сабе ўдзячны ўспамін як на эміграцыі так і на Бацькаўшчыне, як сярод родных так і сярод прыяцеляў і знаёмых.

Няхай будзе Табе, дзядзька Міхась, пухам амэрыканская зямля, а мы мікалаеўцы заўсёды будзем пра цябе памятаць ды ганарыцца яшчэ адным выдатным мікалаеўцам.

Вечная Табе памяць!

**Мікола Пpускі**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АНАТОЛЬ ГРЫНЬКО

9-га лістапада сёлета у Аўстраліі памёр ведамы беларускі мастак Анатоль Грынько.

Нарадзіўся сьв. памяці Анатоль Грынько 8-га лютага 1910 году на Беларусі. Скончыў унівэрсытэт у Вільні. Быў вартасным, ахвярным чалавекам-беларусам. Актыўнага ўдзелу ў беларускім жыцьці Аўстраліі ён ня браў — ад даўжэйшага часу амаль ня мог гаварыць, хоць раней і прыгожа сьпяваў. Абразы ягоныя былі на розных выставах. Шмат каштоўных беларускіх рэчаў пераказаў на Этнічны Музэй у Канбэры, сталіцы штату Вікторыя.

Пакінуў у глыбокім смутку жонку Ванду і сына з сям'ёю.

**М. Нікан**

## ШУКАЮЦЬ СВАЯКОЎ

Шукаю свайго стрыечнага дзеда Савасьцеенка Паўла Цярэньцевіча, 1908 году нараджаньня, які пасьля II-ой сусьветнай вайны выехаў у Канаду. Ці можа хто зь яго сваякоў адгукнуцца на адрас:

225320 Беларусь
Брэстская воб. г. Баранавічы
вул. Леніна, д. 21, кв. 52
Юркевіч Ігар Канстанцінавіч

Нашчадкаў Вольгі Лукашэвіч (Беразоўскай) у ЗША шукае жыхар Горадні, пляменьнік Вольгі Валеру Васільлевіч Лукашэвіч. Цётка Валерыя, Вольга Сяргееўна Лукашэвіч (нар. у 1900 г) эмігравала ў ЗША недзе ў 1917 годзе. Паходзіла яна з Копыскага раёну Менскае губерні, у Амерыцы выйшла замуж за Беразоўскага. Ейная замужняя дачка мела двух сыноў.

Калі хто-небудзь ведае пра іх, просьба напісаць на адрас: 230019 Беларусь, гор. Гароднячы, вул. Пралетарская, 18-46, Велерыю Лукашэвічу.

## ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: Я. Жучка, В. Кажан, П. Кажура, А. Сёмуха, А. Маркевіч, М. Раецкі, В. Махнач, Ул. Траскевіч, У. Акавіты, Б. Кіт, В. Мельяновіч, А. Сёмуха, С. Карніловіч.

## АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ'у

| | |
|---|---|
| Прыход Сьвятое Еўфрасіньні Полацкай, Саўт Рывэр ам. дал. | 500.00 |
| Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі | 200.00 |
| Фонд Адраджэньня Беларусі | 1220.00 |
| Я. Жучка | 88.00 |
| Л. Клыбік | 88.00 |
| А. Арэшка | 58.00 |
| І. Саўка | 58.00 |
| З. Жэлезоўская-Смаршчок | 100.00 |
| Др. Б. Рагуля | 432.68 |
| П. Барысік | 30.00 |
| Р. Завістовіч | 50.00 |

## НОВЫЯ ДРУКІ

**Выступленьне Міністра Замежных Спраў Рэспублікі Беларусь Пётры К. Краўчанкі на 46 Сэсіі Гэнэральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, Нью-Ёрк, 26 верасьня 1991 г.** Менск, Выдавецтва Беларусь, 1991. 30 б.

Брашура выдадзеная ў беларускай і ангельскай мовах пад аднэй вокладкай упрыгожанай бел-чырвона-белым сьцягам. Гэтая публікацыя важная як для беларускіх кнігалюбаў, гэтак і для палітыкаў, бо, бадай ці ня ўпяршыню з трыбуны Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў было зазначана што «Сёньня мы з гордасьцю адзначаем, што традыцыі беларускай дзяржаўнасьці маюць шматвяковую гісторыю. Яна ўвасабляласяся ў розных формах дзяржаўнай будовы і дасягнула найвышэйшага росквіту ў сярэдзіне стагодзьдзі... Традыцыі дзяржаўнасьці ў нас зноў матэрыялізаваліся ў першай чвэрці стагодзьдзя, калі было абвешчана стварэньне беларускай дзяржавы. За параўнальна невялікі кавалак свайго самастойнага існаваньня яна была прызнана дэ-юрэ і дэ-факто шэрагам эўрапэйскіх дзяржаў, зь якімі ў яе пачалі разьвівацца двухбаковыя сувязі... Цяжка знайсьці ў Эўропе такі народ, які гэтак-жа многа пакутаваў і гараваў, які гэтак-жа часта падвяргаўся спусташальным набегам, нашэсьцям і агрэсіям... Лёс распарадзіўся так, што наша геапалітычнае становішча — трагічна адбівалася на лёсах беларусаў, зь няўмольнай пасьлядоўнасьцю кідаючы іх з малоха адной вайны ў другую... **Паміж Молатам і Кавадлам — паміж двума моцнымі суседзямі — квінтэсенцыя нашай многанацыянальнай гісторыі».** У брашуры шмат іншых цікавых мясьцінаў, упяршыню выказаных міністрам Беларусі на інтэрнацыянальным форуме.

**Зорка Чарнобыль,** Менск 1990. 12 б. Праўда запозьнена, рэдакцыя атрымала гэты невялікі, але арыгінальны зборнічак паэзіі. У асноўным гэта некалькі лірычных ды на штодзённую палітычную тэматыку вершаў. У зборніку зьмешчаныя творы М. Апейкі, Спадарыні Іры, Алесі, Г. Кажамякіна, ды У. Льянава. Ва ўступе ад рэдакцыі кажацца: «Тут сабраныя вершы невядомых пакуль што паэтаў... але праз пэўны час ты (чытач) будзеш з гонарам гартаць пажоўклыя старонкі і з заміласнем перачытваць першыя, яшчэ недасканалыя і наіўныя творы тады ўжо знакамітых асобаў. А зараз для цябе, чытач, гэтая кніга — знаёмства з новымі поглядамі й меркаваньнямі, можа, у чымсьці спрэчнымі ці нязвыклымі. А для гэтых хлапцоў ды дзяўчат — штуршок да новых пошукаў і зьдзяйсьненьняў».

Жадаем як аўтаром, гэтак і выдаўцом зборніку посьпехаў на багатай ніве беларускае паэзіі. Адрас выдавецтва:

220018, Беларусь,
г. Менск, а/с 155

Беларускім навукова-гуманітарным таварыствам падрыхтаваны да друку зборнік навуковых, артыкулаў сяброў Таварыства **«Працы Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства», укладзены паводле матар'ялаў II-х і III-х Заслаўскіх чытаньняў (1990, 1991 гг., г. Заслаўе).** Сярод іншых увазе чытачоў прапануюцца артыкулы: А. Дзярновіч «Шляхі пранікненьня кафлі на Беларусь: да пытаньня беларуска-нямецкіх кантактаў»; М. Міхайлаў «пра фармаваньне і развой ідэяў «экалягічнае этыкі» ў Старажытнай Індыі»; А. Аньціпенка «Экалягічная праблема: на скрыжваньні мінулага і будучыні»; Ю. Драздоў «Блр. ВОРАН: вед. VARUNA (да параўнаньня міталагічных функцыяў)»; В. Адзіночанка «Пра беларускі шлях»; І. Саверчанка «Леў Сапега (рыскі да палітычнага партрэта)» ды інш.

Тэрмін выданьня — канец 1991 г.

На Зборнік можна аформіць папярэднюю падпіску.

Падпісны кошт 1 асобніка — 5 даляраў для прыватных асобаў, 10 даляраў для арганізацыяў.

Каб падпісацца на Зборнік, неабходна пералічыць паказаную суму на рахунак № 01-00782-001-00 у **Credit Lyonnais, New York, 95 Wall St. New York City, N.Y.** на карысьць Прыёрбанка дзеля залічэньня на рахунак ЦСМП «Інтэрвіза» з пазнакай "BNHT" і перасла́ць копію плацёжнага дакуманту (квітанцыі) на адрас:

Box 71, Mensk-115, 220115,
Republic of Belarus

## ПАЧКІ НА БЕЛАРУСЬ

Ад 1-га лістапада 1991 году да 31 сакавіка 1992 году Амэрыканская Паштовая служба прапануе жыхаром Злучаных Штатаў карыстацца «паветранай дапамогай» пры пасылцы пачкаў у Эстонію, Латвію, Летувію і ў рэспублікі былога Савецкага Саюзу. Паштовая Служба ЗШ ахвяруе гэтаю паслугу для гуманітарнай дапамогі асобам і сем'ям гэтых краінаў, якая будзе хутчэйшай за звычайную пошту й значна таннейшая за паветраную пошту. Прыкладам, 4-ох фунтовая пачка, якая звычайнай поштай каштавала-б 10.75 даляраў, а паветранай поштай — 33 даляры, гэтым «гуманітарыян эйрліфт» спосабам будзе каштаваць 14.75. На пачцы мусіць быть зазначана чырвоным алавікам **"Humanitarian Airlift"**. Максымальная вага пачак — 22 фунты.

Пасылаючы пачкі ў Рэспубліку рэкамэндуецца імя рэспублікі падаваць па-ангельску, альбо у лацінскай транслітэрацыі.

## АХВЯРЫ НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРТ

| | |
|---|---|
| Аляксандр Лашук | ан. фун. 20 |
| М. Нікан | даляраў 20 |
| Міхась Лужынскі | 100 |
| Бел. Культурна-Грам. Клюб у Сыднэй | 400 |
| В. Калесьніковіч | 5 |
| В. Яновіч | 5 |
| М. Кастышын | 20 |
| В. Акавіты | 10 |
| М. Кубрік | 5 |
| С. Быкаў | 5 |
| Р. Краўчынка | 5 |
| Я. Рольсон | 10 |
| Ж. Юрша | 10 |
| В. Біканін | 2 |
| а. М. Бурнос | 20 |
| Я. Аршанскі | 10 |
| М. Колес | 10 |
| М. Кандрусік | 10 |
| А. Садоўскі | 20 |
| А. Руткеввіч | 5 |
| А. Ціхінскі | 10 |
| П. Пачопка | 10 |
| Б. А. у П. А. | 228 |

З Англіі: А. Лашук 50 ангельскіх фунтаў

Беларускі радыёвы камітэт у Пэрце З. А. выказвае шчырае беларускае дзякуй усім, што адгукнуліся на зварот.

**М. Раецкі**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Сям'я Стагановічаў (з нагоды 3-яй гадавіны сьмерці сьв. пам. Аляксандра Стагановіча ам. дал. | 100.00 |
| Г. Салавай | 50.00 |
| А. Палескі | 50.00 |
| БАПЦ Гайленд Парк | 50.00 |
| БАПЦ Кансысторыя | 50.00 |
| Аддзел БАЗА ў Нью-Джэрзі | 50.00 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 50.00 |
| В. Кажан (заміж кветак на магілу с.п. Міхася Міцкевіча) | 40.00 |
| Л. Шурак | 40.00 |
| Л. Кавалёў | 30.00 |
| А. Шастак | 25.00 |
| А. Мартыновіч | 25.00 |
| Ю. Арцюшенка | 25.00 |
| П. Скепка | 25.00 |
| Л. Драздова | 25.00 |
| А. Кажан | 25.00 |
| А. Субота | 20.00 |
| Г. Дубяга, мал. | 20.00 |
| А. Непейн | 20.00 |
| Я. Літвінка | 20.00 |
| У. Харавец | 20.00 |
| В. Дубяга | 20.00 |
| А. Сільвановіч | 20.00 |
| Т. Кольба | 20.00 |
| Я. Літвіненка | 20.00 |
| С. Гутырчык | 20.00 |
| А. Семянкук | 15.00 |
| І. Сьвентахоўскі | 12.00 |
| Я. Місюль | 10.00 |
| Э. Рыжы | 5.00 |
| Усяго | 882.00 |

*Прыслана непасрэдна у рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Ф. Бартуль ам. дал. | 250.00 |
| Ф. Верамейка ам. дал. | 34.00 |